Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ




№ 4 (265) СНЕЖАНЬ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Жыві, шукай, усё рабі як след, каб на Радзіме твой свяціўся след*

*Сяргей Грахоўскі*

ПРАВАВОЕ БЯЗМЕЖЖА

# ПАЛЯВАНЬНЕ ПА-БЕЛАРУСКУ: ЗА НЕЗАБІТАГА ЗАЙЦА — 500 РУБЛЁЎ ШТРАФУ

**Паляўнічы хацеў здабыць зайца ў Гарадоцкім раёне,. Але да пачатку палявання, знаходзячыся ў вёсцы Азёркі, быў абвінавачаны ў паляванні на змантаваным відэа. А потым Уладзімер Бацюлёў «упаляваў» у судзе штраф на 20 базавых ды страціў на тры гады сваю стрэльбу. Яе канфіскавалі інспэктары. Гэтак можна папаляваць хіба толькі ў Беларусі...**

62-гадовы Уладзімер Бацюлёў палюе ўжо больш за 20 гадоў. Але апошні год сядзіць бяз стрэльбы і на паляваньні ня ходзіць — абскарджвае незаконную, як ён лічыць, пастанову аб штрафе, якую вынес яму раённы суд. Яго аштрафавалі за неўпаляванага зайца і за чужыя патроны, якія, паводле пратаколу, ляжалі ў кішэні курткі. Цымус у тым, што на куртцы паляўнічага... кішэняў не было. У акалічнасьцях справы разьбіраўся карэспандэнт «Віцебскай Вясны».

«Раней, за савецкім часам ці ў пераломныя 1990-я, людзі баяліся крымінальнікаў, а цяпер баяцца праваахоўнікаў...» — так пачынае свой расказ Уладзімер Бацюлёў. Але спачатку — афіцыйная вэрсія здарэньня.

**Афіцыйна: насіў патроны, набітыя кулямі**

Як сьцьвярджаюць супрацоўнікі Гарадоцкай міжраённай інспэкцыі абароны жывёльнага і расьліннага сьвету Раман Федарэнка і Зьміцер Маргаўцоў, 9 студзеня 2018 году а 10-й раніцы ля вёскі Азёркі на тэрыторыі Прудніцкага паляўнічага лецішча імі быў агледжаны Уладзімер Бацюлёў. Акрамя стрэльбы ды пуцёўкі для паляваньня на ненармаваныя віды жывёлаў, ён меў пры сабе тры патроны, забароненыя для зьдзяйсьненьня гэтага віду паляваньня: «два патроны былі набітыя кулямі і адзін патрон — карцеччу».

Інспэктары палічылі, што спадар Бацюлёў парушыў абзац 4 пункту 114 Правілаў вядзеньня паляўнічай гаспадаркі і паляваньня («пры паляваньні на ненармаваных жывёлаў забараняецца нашэньне патронаў, набітых кулямі і карцеччу»).

20 сакавіка 2018 году судзьдзя суду Гарадоцкага раёну Вераніка Барысава прызнала Уладзімера Бацюлёва вінаватым у зьдзяйсьненьні правапарушэньня, прадугледжанага ч. 1 арт. 15.37 КаАП РБ (Паляваньне... забароненымі прыладамі і спосабамі) і аштрафавала яго на 20 б.в. (490 рублёў). Да таго ж — пазбавіла на 6 месяцаў права на паляваньне.

**Паляўнічы: Выскокваюць раптам два малойцы з аўтаматамі...**

«У той дзень я, Артур Іпатаў і Аляксандар Лісьняк паехалі ўпаляваць хаця б аднаго зайца, зварыць шурпу ды пасядзець цесным колам. Мне 62 гады, Артуру Іванавічу — 77. Ён некалі быў золатаздабытчыкам, і цяпер у яго хворыя ногі, таму ехаў больш не на паляваньне, а панатхненьне, бопішавершы. Аляксандар Аляксеевіч дык той наогул творчая асоба — паэт, музыка, публіцыст», — расказвае Уладзімер Бацюлёў.

Кажа, што прыехаў у Азёркі крыху пазьней, бо затрымаўся на працы. Паехаў на чужой машыне. Ягоныя сябры былі ўжо на месцы і прыпаркаваліся не на цэнтральнай дарозе, а крыху зьлева, на прасёлкавай дарожцы, якая візуальна знаходзіцца ў вёсцы і пралягае праз яе аж да дому, што стаяў у 70 мэтрах ад машын.

«Калі я прыехаў, Лісьняк ужо пайшоў са стрэльбай у поле. Я меў намер пайсьці сьледам. Раптам падлятае нейкі «ўазік», зь яго выскокваюць два малойцы ў красоўках ды з аўтаматамі на баку — і да мяне: «Хто вы такі, што тут робіце?..» — распавядае паляўнічы.

**Ператрус, патроны і парэзанае відэа**

«Малойцы» праверылі дакумэнты і загадалі дастаць зачахлёную стрэльбу, што ляжала на задняім сядзеньні аўто. Бацюлёў дастаў стрэльбу і паведаміў, што не зьяўляецца ўладальнікам машыны. Нягледзячы на гэта, інспэктары ўчынілі ў аўто ператрус і знайшлі ў бардачку тры паляўнічыя патроны, якія гаспадар аўтамабіля Аляксандар Бравы лічыў «непрацоўнымі» і меў намер пры нагодзе адстрэліць.

Бацюлёў кажа, што ведаў, чые гэтыя патроны, але, каб не «падстаўляць чалавека», сказаў, што патроны — ягоныя і засталіся ў бардачку зь мінулага паляваньня. Быў упэўнены, што ў гэтым няма ніякага парушэньня, бо на паляваньне ён яшчэ ня выйшаў і машына знаходзілася ў населеным пункце.

Як успамінае паляўнічы, усё гэта нагадвала захоп з удзелам спэцназу. У яго скакануў ціск, таму астатняе памятае цьмяна...

«Гэта зараз я разумею, што вобшук быў незаконны і адбыўся без удзелу панятых. Кіроўца „ўазіку“ ад самага пачатку здымаў усё на відэа. Але пасьля таго, як яны знайшлі, што хацелі, той кусок запісу, на якім даставалі стрэльбу і патроны з машыны, быў выдалены. І на судзе запіс пачынаўся з таго моманту, як стрэльба ляжыць на капоце аўтамабіля, а тры патроны інспэктар Маргаўцоў трымае ў руцэ», — расказвае Уладзімер Бацюлёў.

Як аказалася, не трапілі на відэа і два найбліжэйшыя да машын дамы. За кустамі праз поле, якое і стала месцам «захопу», стаяць яшчэ дзьве хаты, куды ўлетку прыяжджаюць дачнікі. Таму пра нейкую 200-мэтровую зону казаць зусім не выпадае. «Па сутнасьці, мы знаходзіліся ў вёсцы», — сьцьвярджае наш суразмоўца.

**Як складаюцца пратаколы**

«Потым інспэктары, ня ведаючы,

*(працяг на стар. 2)*



АУКЦЫЁН

# ШОСТАЯ СПРОБА ПРАДАЦЬ

**Адбудзецца шостая спроба прадаць будынак Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

На 2 красавіка запланаваны чарговы аукцыён па продажу будынка, які належыць Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету і месціцца ў Гарадку па адрасу б зав. 3-ці Чырвонаармейскі, 27А/1. У чарговы раз арганізатары аукцыёна зменшылі кошт прадаваемага будынку.

Раней мы пісалі: «Камітэт „Віцебскаблмаёмасць“ на аўкцыёне 15 кастрычніка выстаўляе 7 лотаў для продажу дзяржаўнай маёмасці. Адным з лотаў пад нумарам 6 з'яўляецца будынак Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету плошчай 88,3 кв.м. па адрасе: г. Гарадок, зав. 3-ці Чырвонаармейскі, 27А, а таксама незавершаны ня законсерваваны капітальны будынак (будынак неўстаноўленага прызначэння) разам з пладовымі і шматгадовымі насаджэннямі. Кошт гэтага лота — 40 046,29 руб., а сума задатку — 8 009,00 руб. Год пабудавання — 1967 г.». http://haradok.info .

Але той аукцыён быў безвыніковы, бо ніхто не пажадаў выкласці амаль 20 тысяч даляраў толькі за сам будынак, не кажучы пра ўсе астатнія плацяжы і дзеянні, якія неабходна ажыццявіць пры набыцці маёмасці на аукцыёне: падпісаць пратакол аўкцыёну; не пазней за 10 рабочых дзён пасля зацвярджэння ва ўстаноўленым парадку пратаколу аукцыёну кампенсаваць затраты на арганізацыю і правядзенне аўкцыёну, уключаючы расходы, звязаныя з выбамі і прадастаўленнем удзельнікам дакументацыі, неабходнай для яго правядзення, выдаткі, звязаныя з фарміраваннем зямельнага ўчастка і змяненнем зямельнага ўчастка ў выніку такога фарміравання, з дзяржаўнай рэгістрацыяй у дачыненні да гэтага ўчастка; не пазней за 12 рабочых дзён з дня зацвярджэння ва ўстаноўленым парадку пратаколу аўкцыёну заключыць дамову куплі-продажу нерухомасці і дагавор арэнды зямельнага ўчастка.

Варта адзначыць, што той аукцыён быў не першы і не апошні ў 2018 годзе, калі жадалі прадаць будынак Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Усяго безвыніковых аукцыёнаў па гэтаму будынку дзяржінспекцыі было ПЯЦЬ: два да 15 кастрычніка і два пасля гэтай даты.

І вось зноў прызначаны аукцыён па тавару, які б у народзе назвалі — «вазьмі божа тое, што мне не гожа». Адпаведна кошт будынка на аукцыёне зменшаны да 16 018,52 рублёў, а задатак да 3 203,00 руб. Адначасова з гэтым «сабака на сене» выршала, што пераможцу аўкцыёну (прэтэндэнту на куплю) можа быць прадастаўлены ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку растэрміноўка аплаты нерухомай маёмасці. Разам з гэтым уладальнік маёмасці вызначыў, што будынак магчымы толькі для арганізацыі аб'екта па вытворчасці гатовых тэкстыльных вырабаў, акрамя адзення, гатовага трыкатажнага адзення машыннага і ручнога вязання, адзення з тэкстыльных матэрыялаў, спецадзення, верхняга адзення, сподняй бялізны, іншага адзення і аксесуараў; па ажыццяўленні рознічнага гандлю ў неспецыялізаваных крамах, рознічнага гандлю фармацэўтычнымі і медыцынскімі таварамі, касметычнымі і парфумернымі таварамі, іншага рознічнага гандлю ў спецыялізаваных крамах; па рамонце бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання; па пракаце іншых бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання; па захоўванні і складзіраванні.

Ці з'явяцца праз месяц двое жадаючых набыць будынак — вялікае пытанне, бо яго размяшчэнне не прывабнае для руху пакупнікоў, а для стварэння вытворчасці ў Гарадку і так ёсць іншыя месцы. Толькі ніяк прыбытковую вытворчасць у Гарадку наладзіць з тэкстылю не атрымліваецца.

**Л.Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ПРАВАВОЕ БЯЗМЕЖЖА

*(пачатак на стар. №1)*

што рабіць, выклікалі свайго непасрэднага начальніка Дзьмітрыя Вераб'ёва. Ён прыехаў і запатрабаваў ад мяне напісаць тлумачэньне. Дыктуе: „...Ружжо было незачахлёнае, ляжала на заднім сядзеньні..." Я нават не зразумеў, пра якую стрэльбу гаворка, бо ў мяне моцна падскочыў ціск», — тлумачыць Уладзімер.

«Яшчэ раз хачу падкрэсьліць, што я знаходзіўся па-за межамі паляўнічых угодзьдзяў, а патрон не знаходзіўся ў руле. Яны ж пішуць: «Стрэльба была зараджаная». Тры набітыя патроны былі ў бардачку. Яны пішуць: «Патроны меў пры сабе». Я кажу: «Хлопцы, я ня меў патроны пры сабе». А яны мне: «Нам начальнік сказаў так пісаць!» — падсумоўвае.

Інспэктары склалі пратакол, забралі стрэльбу і дакумэнты ды зьехалі. На гэтым паляваньне скончылася. І яшчэ дэталь: пратакол яны чамусьці датавалі 2017-м годам.

**Суду было не да кішэняў...**

Суд адбыўся 13 студзеня. Уладзімера Бацюлёва абвінавацілі ў «нашэньні і прымяненьні зброі», але доказная база была відавочна слабая. Таму судзьдзя Алена Віхаценка, вывучыўшы акалічнасьці, разглядаць справу адмовілася.

Справу вярнулі на дапрацоўку. Праз некалькі месяцаў спадара Бацюлёва запрасілі ў інспэкцыю, каб азнаёміць з новым пратаколам. З пратаколам ён азнаёміўся, але зь ягоным зьместам не пагадзіўся. Разгляд справы прызначылі на 20 сакавіка.

Падчас вывучэньня акалічнасьцяў справы новая судзьдзя Вераніка Барысава не ўзяла пад увагу сьведчаньні Артура Іпатава і Аляксандра Лісьняка, якія цьвердзілі, што на паляваньне іхні сябар у той дзень так і ня выйшаў. Ня ўлічыла і сьведчаньні жыхара Азёркаў, які запэўніваў, што дарога, на якой стаялі машыны, вясковая.

Больш за тое, гаспадар машыны Аляксандар Бравы на судзе заявіў, што патроны, знойдзеныя ў машыне, ягоныя, і, якёнлічыць, старыя і сапсаваныя. Але гэтыя сьведчаньні былі праігнараваныя. Ніякай, дарэчы, экспэртызы канфіскаваных патронаў, безь якой нельга прызнаць іх прыдатнымі да выкарыстаньня, праведзена не было.

Але самым прыкрым выпадкам «наўмыснай падтасоўкі фактаў з боку абвінавачаньня» стала, як мяркуе Бацюлёў, запэўніваньне інспэктараў, што паляўнічы дастаў патроны з бакавой кішэні курткі. Справа ў тым, што камуфляжная куртка Бацюлёва ня мела бакавых кішэняў. Гэта лёгка можна было спраўдзіць на відэа.

Дарэчы, ня здолелі інспэктары давесьці і тое, што паляўнічы знаходзіўся па-за 200-мэтровай зонай ад апошняй вясковай хаты, то бок — на паляўнічых угодзьдзях, мяркуе паляўнічы.

Тым ня менш, суд, праігнараваўшы ўсе супярэчнасьці, пабачыў у дзеяньнях Бацюлёва злы намер на здабычу зьвера без дазволу. Ды вынес абвінавачае рашэньне.

**Яшчэ 300 рублёў за зброю — і чакайце тры гады**

Пазьней Уладзімер Бацюлёў падаў скаргу ў абласны суд. Разглядала яе судзьдзя Сьвятлана Іванова. Даведаўшыся, што спадар Бацюлёў быў затрыманы ў межах вёскі, судзьдзя спачатку перанесла разгляд, маючы намер выклікаць у суд інспэктараў. Але вось незадача: якраз у гэты дзень яны былі на допытах у адной з сілавых структураў. Таму судзьдзя абласнога суду ў дзеяньнях Уладзімера злы намер на зьдзяйсьненьне правапарушэньня таксама пабачыла і падставаў для адмены пастановы Гарадоцкага суду не знайшла.

Ня стаў на бок Бацюлёва і Вярхоўны суд...

І парадаксальна: паводле новых правілаў, зацьверджаных неўзабаве пасьля гэтага выпадку (у 2018 годзе), паляўнічым цяпер дазволена мець пры сабе кулі з розньмі набоямі.

Рашэньнем суду паляўнічая зброя была канфіскаваная на 6 месяцаў, але і да сёньня паляўнічы ня здолеў яе вярнуць. Каб атрымаць зброю назад, ён мусіць заплаціць 300 рублёў, прайсьці навучаньне і здаць экзамэн! А потым — чакаць яшчэ тры гады...

**С. Горкі**

НАША ЖЫЦЦЁ

# ЗАРОБКІ ЗНОЎ ПАМЕНШЫЛІСЯ

**На Гарадоччыне намінальная налічаная сярэдняя зарплата ў студзені істотна менш снежаньскай.**

Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Віцебскай вобласці паведаміла аб змяншэнні налічаных заробкаў уза перша месяц 2019 года ва ўсіх адміністратыўных адзінках вобласці, ў тым ліку і ў Гарадоцкім раёне. Гэтыя дадзеныя прадстаўлены без уліку мікраарганізацый і малых арганізацый вобласці.

Па Віцебскай вобласці за першы месяц гэтага года сярэдні заробак склаў 830 рублёў або толькі 91,1% да ўзроўня рэальнага заробка за снежань 2018 года. Найбольшы сярэдні заробак ў вобласці маюць працаўнікі з г. Наваполацка, дзе ён складае 1 111,7 рубля або 93,1% ад узроўня снежаньскага заробку.

Па Гарадоцкаму раёну сярэдні заробак за студзень склаў 678,6 рубля або 94,7% ад узроўня снежаньскага. І гэтыя 94,7% узроўня ад снежаньскага амаль самыя высокія па Віцебскай вобласці, калі не лічыць раёнаў з самым нізкім заробкам — Шаркаўшчынскі — 579,3 руб. і Міёрскі — 613,3 руб — самыя нізкія заробкі не толькі на Віцебшчыне, але мусіць і ў краіне.

Па сваіх паказчыках Гарадоцкі раён займае верхняе становішча сярод раёнаў з нізкімі заробкамі — 11 месца. Варта адзначыць, што сярэдні заробак у раёне складае толькі 81,8% ад сярэднеабласнога ўзроўня.

Статыстычныя органы з пазамінулага года пачалі весці статыстыку і па колькасці працаўладкаваных грамадзян на месцы ў створаных вытворчасцях або прадпрыемствах. Так па Гарадоцкаму раёну за мінулы год стварылі толькі 74 новых працоўных месца, агодам раней іх было 117. Гэта значыць, што стварылі на 43 месца менш і гэты паказчык — пяты знізу. А для параўнання ў Верхнедзвінскім створана 129, Глыбоцкім — 150, Пастаўскім 185, Дубровенскім — 380.

Але лепш ведаць не колькасць створаных месцаў, а сярэдні заробак на гэтых месцах. Толькі такой даступнай статыстыкі ў нашай сацыяльнай дзяржаве няма.

**Л. Антонаў**

ГАНДАЛЬ

# НОВЫ ФАРМАТ КРАМЫ

**У Гарадку крама «Еўраопт» па вул. Вароўскага ператворана ў краму серыі «Хіт! Экспрэс»**

Сёння 14 сакавіка ў Гарадку адкрыўся магазін пад гандлёвай маркай «Хіт! Экспрэс» у фармаце «Жорсткая дыскаўнтэр ».

З сярэдзіны лютага «Еўрагандаль» (асноўныя актывы - «Еўраопт», «Брусьнічка», «Магія», інтэрнэт крамы «Е-дастаўка», «Гіпермол», онлайн-дыскаўнтэр «Е-дысконт»), пачаў развіваць сетку крам у фармаце «Жорсткі дыскаўнтэр» пад гандлёвай маркай «Хіт! Экспрэс».

У лютым было адкрыта 15 крам «Хіт! Экспрэс », з якіх 14 - гэта перафарматаваны «Еўраопт ». Першыя крамы новай сеткі адкрыліся ў Мінску і Брэсце.

Фармат жорсткага дыскаўнтэра адрозніваецца вузкім асартыментам тавараў, адсутнасцю скорапсавальных прадуктаў і нізкім коштам. Крамы ў сярэднім будуць мець плошчу 100 кв. м.

У крамах якія ўжо працуюць пакупнікам прапануецца асартымент з 1400 SKU. На працягу бліжэйшых некалькіх месяцаў рытэйлер «Еўрагандаль» плануе адкрыць яшчэ да 30 крам пад гэтай гандлёвай маркай. Адзначаецца, што ў іх «амаль усе тавары - па акцыйных цэнах». У новай краме цэны ніжэй, чым у «Брусьнічке".

Наколькі гэта дакладна - вырашаць пакупнікам.

«Далейшыя планы развіцця дыскаўнтэраў будзем фармаваць узалежнасці ад ацэнкі пакупнікамі гэтай прапановы і камерцыйных вынікаў працы фармату», - растлумачылі ў «Еўрагандаль».

**Л.Антонаў**

ЗДАРЭННЕ

# ЯБЛЫКІ ДА РАСІІ НЕ ДАВЕЗЛІ

**У Гарадоцкім раёне затрымалі 20 тон яблыкаў, якія збіраліся перавезці ў Расію, намаганнямі Віцебскай мытні і Гарадоцкага РАУС**

Груз свежых яблыкаў коштам прыкладна 26 500 рублёў быў выяўлены супрацоўнікамі аператыўна-пошукавага аддзела Віцебскай мытні сумесна з супрацоўнікамі Гарадоцкага РАУС.

Каля 20 тон прававаахоўнікі выявілі каля вёскі Халіпы Межанскага сельсавета непадалёк ад беларуска-расійскай мяжы. У кіроўцы фуры адсутнічалі тавара-суправаджальныя дакументы, неабходныя для перамяшчэння гэтага тавару.

Па факце парушэння заканадаўства мытняй пачаты адміністрацыйны працэс па прыкметах здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага часткі 4 артыкула 12.17 КаАП, паведамляе прэс-служба Віцебскай мытні.

Як раней паведамлялі «ННВ», у пачатку сакавіка беларускія мытнікі затрымалі адзінаццаць расійскіх фур з амаль 100 тонамі санкцыйных яблыкаў. Віцебская мытня тады выявіла амаль 20 тон свежых яблыкаў, коштам каля 28 000 рублёў, якія спрабавалі правезці праз пункт пропуску «Урбаны».

**Паводле: https://news.vitebsk.cc**

# ДВА ТРУПЫ Ў ДВАРЫ

**У Гарадоцкі РАУС 14 лютага паступіла паведамлене аб выяўленні ў аграгарадку Даўгаполле двух трупаў, якія знаходзіліся ў двары іх дома.**

Следчы Гарадоцкага РАСК Віктар Шышлакоў у «Гарадоцкім весніку» паведамляе, што былі выяўлены трупы двух пенсіянераў. Пад час праверкі аднавяскоўцы характаразавалі пенсіянераў грамадзянамі, якія не злоўжывалі спіртнымі напоямі і вялі спакойны лад жыцця. У час праверкі было ўстаноўлена, што недабразычліўцаў у пенсіянераў не было.

Следствам высвятляецца прычына смерці і адзначаецца, што яна не мае крымінальнага характару.

**Л. Антонаў**

# ЗНІШЧАНА ЛАЗНЯ

**Паволе інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МНЗ 6 сакавіка ноччу адбыўся пажар у Межанскім сельсавеце.**

Прэс-служба інфармуе, што 6 сакавіка ў 04-31 у Гарадоцкі аддзел МНЗ паступіла паведамленне аб пажары лазні па вул. Краснагорская ў в. Хмяльнік Гарадоцкага раёна. У выніку пажару знішчана лазня, якая належала грамадзяніну 1954 г. н.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія прычыны ўзнікнення пажару — парушэнне правілаў эксплуатацыі печаў, цеплагене-рыруючых агрэгатаў і прылад.

**Т. Гаражанка**
**Паводле: https://vitebsk.mchs.gov.by**

ЗАТРЫМАННЕ

# “АЎТАРЫТЭТ” ЗАТРЫМАНЫ

**У Гарадоцкім раёне затрымалі «крымінальнага аўтарытэта» - заехаў з Расіі на радзіму.**

Каля пасёлка Езярышча Гарадоцкага раёна 13 студзеня сілавікі затрымалі 51-гадовага ўраджэнца Полацка, які пасля абвінавачванні ў падробцы візавых дакументаў два гады хаваўся ад міліцыі ў Маскве. Мужчына ставіцца да так званым крымінальным аўтарытэтам, паведамляе МУС.

Беларускім міліцыянтам дапамагалі расійскія калегі. Сілавікі ўстанавілі, што адшукваецца мужчына збіраецца наведаць сваю радзіму. Неўзабаве яго затрымалі ў Беларусі.

Абвінавачаны па падробленых дакументах атрымліваў у Віцебску шэнгенскія візы, ездзіў у краіны Еўрасаюза і сустракаўся там з прадстаўнікамі замежнага крыміналітэту - для супрацоўніцтва ў сферы нелегальнага аўтабізнэсу, кантрабанды тытунёвых вырабаў і паставак санкцыйных прадукцыі з Еўропы ў Расію праз Беларусь, паведамляюць у МУС.

Мужчына ў СІЗА.

**Т. Гаражанка**
**Па інфармацыі МУС**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ВЯЛІКАЯ РАЗМОВА ПРА ЛЕТАШНІ СНЕГ

**Аснову сучаснага глабальнага канфлікту «складае барацьба сучаснага і несучаснага светаў». Гэту думку аўтар «Азбукі паліталогіі» запазычыў з кнігі расійскага эканаміста Уладзіслава Іназемцава «Несучасная краіна». Кніга прысвечаная Расіі. Аднак гэта, калі пагадзіцца з адзіным палітыкам (АП), «наша Расія».**




Можна, зразумела, і не згаджацца, аднак роднаснасць дзвюх мадэляў адмаўляць складана. І першае, што кідаецца ў вочы, — гэта дэфіцыт унутраных крыніц развіцця, што і пацвердзіла «Вялікая размова», якая адбылася 1 сакавіка. Сем з паловай гадзін не хапіла АП для таго, каб патлумачыць, за кошт чаго пад канец наступнай пяцігодкі ВУП Беларусі складзе $ 100 мільярдаў. І гэта нягледзячы на наўпроставае пытанне, якое паступіла ад аднаго з удзельнікаў «размовы».

На працягу стагоддзяў «славянская цывілізацыя», пад якой АП разумее Расію, Беларусь і Украіну, развівалася за кошт знешніх запазычанняў, што не замінала (якім бы дзіўным гэта ні падавалася) фарміраванню пачуцця выключнасці, не перашкодзіла памкненню не столькі даць свету нешта новае, колькі не дапусціць страты ранейшых здабыткаў. Адсюль культ стабільнасці, пакланенне якому і апынулася ў цэнтры «Вялікай размовы».

**Не вёў агітацыю і не збіраецца**

«Нам трэба будзе даць аб'ектыўную ацэнку адносна самых абмяркоўваемых тэмаў, якія асабліва хвалююць людзей і грамадства… А па асобных пытаннях нам трэба кампенсаваць недахоп дакладнай інфармацыі, паток якой штодня абрушваецца на кожнага з нас», — такімі словамі акрэсліў АП мэту «Вялікай размовы».

Мэта агульная, але асобна для СМІ, «якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя», гаспадар мерапрыемства нагадаў пра існаванне мяжы дапушчальнага, за «якой парушаецца раўнавага ў грамадстве». Што ж, своечасовы напамін. Да аўтара «Азбукі паліталогіі» гэта мае непасрэднае дачыненне.

Не абышлося і без панегірыкаў на адрас «сённяшняга чытача». АП ахарактарызаваў яго як адукаванага, які ўмее аналізаваць, разбірацца «ў тонкасцях журналісцкіх маніпуляцый» і авалодаў мастацтвам «хутка счытваць, чые ці якія інтарэсы стаяць за анонсам праграмы або загалоўкам навіны».

Ці існуе такі чытач у прыродзе — пытанне спрэчнае. Але калі існуе, дык незразумела, чаму пры наяўнасці чытачоў, здольных адрозніваць праўду ад хлусні па адных толькі загалоўках, так званыя «фэйкавыя навіны», нават пасля іх выкрыцця, здольныя «бударажыць людзей»?

Зразумела, не абышлося без развагаў пра маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

У несучасных краінах — а такіх у свеце большасць — выбары не маюць на мэце рэальную канкурэнцыю кандыдатаў, якія прапануюць выбаршчыкам розныя шляхі развіцця краіны. Прыклад, як правіла, падаюць уладныя кандыдаты. Таму не варта здзіўляцца заяве АП пра тое, што ён у мінулую перадвыбарчую кампанію не вёў агітацыю, дый падчас маючай адбыцца таксама не збіраецца тое рабіць.

Нацыянальная адметнасць выбараў у Беларусі такая, што забяспечваецца высокая яўка выбаршчыкаў і падтрымка канструктыўных кандыдатаў і без адміністрацыйнай мабілізацыі электарату. Навошта ж дарма марнаваць народныя грошы на агітацыю? Выбаршчыкі, якія па анонсах праграм кандыдатаў адназначна разумеюць, чые інтарэсы тыя на самай справе прэзентуюць, у агітацыі не маюць патрэбы.

Строга кажучы, само паняцце «выбары» ў наш несучасны свет прыцягнутае за вушы са свету сучаснага. У нас — не выбары, а галасаванне. «Таму што выбары, — тлумачыць расійскі паліолаг і журналіст Яўгенія Альбац, — гэта не толькі момант, калі вы апускаеце свой бюлетэнь, выбары — гэта на самай справе працэс. Гэта перадвыбарчая кампанія, падчас якой прадстаўнікі розных палітычных партый маюць магчымасць прапанаваць выбаршчыкам розныя кошыкі сваіх прапаноў. Свае праграмы».

І яшчэ адна нацыянальная асаблівасць, пра якую ўвесь час нагадвае кіраўнік дзяржавы: маючыя адбыцца палітычныя падзеі ў нас традыцыйна стануць экзаменамі — і не толькі для АП, але і для ўсіх узроўняў вертыкалі.

Выбары, такім чынам, плаўна трансфармуюцца ў цыраманіял акламацыі (ад лацінскага слова «acclamatio» — «крык», «усклік», «вокліч»). Так у старажытным Рыме гарадское насельніцтва воклічамі выказвала адабрэнне або незадавальненне наконт пастановаў уладаў, якія зачытваліся ў цырку. Можна прыгадаць і казакоў з іх ухвальнымі воклічамі «люба!» на Вайсковым коле.

**Адгадаць з трох разоў**

Несучасныя краіны любяць укідваць у інфармацыйную прастору пытанні, якія не маюць на ўвазе адмоўнага адказу, а калі і маюць, дык выключна з боку «нацыяналістаў», «пятай калоны», «ворагаў народа» і да т.п. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца перакос знешнепалітычных пытанняў над эканамічнымі.

Вернемся ў Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», дзе праходзіла «Вялікая размова». «Вы ўсе ведаеце, што знешняя палітыка Беларусі шматвектарная і праводзіцца выключна ў інтарэсах забеспячэння бяспекі і захавання міру на нашай планеце. Мы супраць любых праяваў агрэсіі, як ваеннай, так і на злобу дня — інфармацыйнай».

Хто і што тут можа запярэчыць? Гэта ж не публічна дыскутаваць наконт эфектыўнасці палітыкі ў галіне падаткаабкладання або фарміравання расходнай часткі бюджэту, як гэта робіцца ў сучасных краінах. Але ідзем далей.

«Па перыметры нашай мяжы ўзнікаюць новыя кропкі напружанасці. Дагаворы, якія забяспечвалі баланс ваенных сіл на планеце, разыходзяцца па швах. У разгары новая гонка ўзбраенняў», — палохае журналістаў і экспертаў АП. А каб быць пераканаўчым, ён пераходзіць да тэмы падвойных стандартаў краін NATO. Польшча, паводле яго словаў, мае намер выдаткаваць

***(працяг на стар. 4)***

ЗАРОБКІ

# КОГДА БУДЕМ ЗАРАБАТЫВАТЬ «ДОСТОЙНУЮ» ЗАРПЛАТУ?

**По производительности труда Беларусь в пять раз отстает от стран Евросоюза, отмечают авторы Концепции национальной стратегии устойчивого развития Республики Беларусь до 2035 года.**

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико не согласен, что производительность труда в стране настолько ниже, чем в Евросоюзе. Он говорит, что этот показатель часто отождествляют со стоимостными величинами цен на продукцию и ее количеством, которое создает один работник. Но это не производительность труда, а выработка.

— В советские времена расчеты производительность труда инженеров, котроллеров, операторов крупных предприятий оценивали как 0,75 от производительности условно американского работника. Для вспомогательных работ это было 0,25. То есть если смотреть на структуру рабочей силы, то мы отставали в четыре раза. А если сейчас пишут, что у нас 20% от европейской, то я хочу спросить, чем вы это меряли? – говорит Леонид Заико.

Как правило, чем выше производительность труда человека, чем он больше создает товаров и услуг за единицу времени, тем выше у него зарплата.

Для устойчивого экономического роста, по подсчетам экспертов, производительность труда должна увеличиваться хотя бы на 5% в год.

Традиционно в Беларуси называют проблемой отрыв роста заработных плат от производительности труда. Есть предприятия, где из-за излишней занятости зарплаты сильно завышены по сравнению с вкладом работников в результаты производства.

Но ситуация неоднозначна, а порой прямо противоположна. За общими показателями производительности труда может скрываться иная ситуация в разрезе отдельных предприятий и отраслей экономики.

– Есть одно конкретное крупное предприятие, которое занимает неплохие позиции внутри страны и на рынках третьих государств, имеет хорошие показатели прибыли по данным финансовой отчетности, но зарплаты у рабочих невысокие. И за последние пять лет в долларовом эквиваленте росли заметно меньше по сравнению с динамикой роста средней зарплаты по стране. Причем, если замерить производительность труда на аналогичном предприятии в стране ЕС, не исключено, что она может совпадать, – приводит пример аналитик исследовательской группы Businessforecast.by Александр Муха.

Чтобы подстегнуть рост производительности труда, руководству страны и принимающим решения предстоит работать над целым комплексом задач, считает аналитик.

— Это и экономические реформы, структурные рыночные реформы, направленные на повышение конкурентоспособности и качественные изменения структуры национальной экономики, и положительные социальные изменения в белорусском обществе, — объясняет Александр Муха.

То есть это вопрос структурной перестройки национальной экономики. Повысить производительность труда можно за счет более активного привлечения иностранных инвестиций, раскрепощения деловой инициативы внутри страны. Это сокращение уровня коррупции и экономических преступлений, уменьшение социального расслоения в обществе, изменение подходов к формированию зарплат, выработка актуальных мотиваций и стимулов к работе, создание более благоприятных условий для ведения бизнеса.

— Здесь же углубление региональной экономической интеграции в формате Евразийского экономического союза, а также долгожданное присоединение Беларуси ко Всемирной торговой организации, — добавляет Александр Муха.

Если двигаться по всем этим фронтам, то можно ожидать более оптимистичных экономических показателей. Ключевым из них экономист называет среднедушевой валовой внутренний продукт по паритету покупательной способности.

— Нужно расти немного быстрей. Для этого важно поощрять инвесторов и бизнес в создании проектов, даже с нуля, где будут рабочие места с более высокой добавленной стоимостью – соответственно более высокой производительностью труда, более высокой заработной платой, — говорит Александр Муха.

Пока же более низкий уровень производительности труда в Беларуси по сравнению с развитыми государствами приводит к более низкому уровню социального и экономического развития. Это сказывается на многих возможностях белорусов, которые зависят от уровня доходов.

— Очевидно, что при более высоких доходах, которые возможны при более высокой производительности труда, белорусы могут обеспечить себе более качественную и достойную жизнь, — отмечает аналитик исследовательской группы Businessforecast.by.

Более того, открывшиеся возможности позволят многим белорусам преодолеть ловушку бедности.

**Наталья Колесниченко**
**Завтра твоей страны**

ПАЛІТАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

на абарону каля $ 50 мільярдаў. У той жа час на любы крок у адказ Беларусі і Расіі ў напрамку ўмацавання ўласнай ваеннай моцы ў Еўропе пачынаюць «гвалтам крычаць».

АП заклікаў незалежныя СМІ быць аб'ектыўнымі і ставіцца да падобных фактах з пункту гледжання нейкага аднаго крытэру. Своечасовы заклік. Грэх ім не скарыстацца. На працягу 5 гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» быў удзельнікам канферэнцыі «Рубікон». Канферэнцыя праходзіла ў Таліне ў будынку парламента. З уступным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, як правіла, звярталася міністр замежных спраў Эстоніі. Натуральна, яна казала пра міралюбную палітыку краіны і рэгулярна скардзілася на тое, што, у адпаведнасці з нормамі NATO, Эстонія вымушаная марнаваць на абарону 2% дзяржаўнага бюджэту.

Я не эксперт па Эстоніі, але выключна знешне аб'ектыўнасць слоў міністра пацвярджала адсутнасць людзей у ваеннай форме на вуліцах Таліна. Аднак у адзін з маіх прыездаў гатэль, у якім размяшчаліся ўдзельнікі канферэнцыі, быў перапоўнены афіцэрамі NATO (пераважалі немцы). Прапаную чытачам з трох разоў здагадацца, у які год здарылася гэта неардынарная падзея.

Той, хто назаве 2014-ы, не памыліцца. З таго ж года калоны ваеннай тэхнікі сталі часткай інтэр'еру эстонскіх дарог. Але што тут прычына, а што следства? Ці не час АП разабрацца з адказам на гэтае пытанне і назваць рэчы сваімі імёнамі, замест рэгулярных развагаў на тэму адсутнасці ў Еўропе захаплення з нагоды «абранага Беларуссю курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы, падпарадкаванай інтарэсам чалавека».

**Разбой на месцах**

У чым АП мае рацыю, дык гэта ва ўзмацненні расколу ў свеце. Калі ў 1800 годзе, калі верыць англійскаму статыстыку Ангусу Мэдзісану, паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі адсталыя ў 4 разы, то ў цяперашні час — у 100 разоў, і разрыў працягвае павялічвацца.

ЗноўпрацытуюІназемцава:«Сучасныя краіныстановяццаўсёбольшсучаснымі (у тым ліку выкарыстоўваючы рэсурсы і грамадзян астатняга свету), а несучасныя — усё больш архаічнымі. Мы прысутнічаем пры нараджэнні свайго роду «расколатай цывілізацыі», дзе імклівa фармуюцца полюсы багацця і беднасці, поспехаў і няўдач. У такіх умовах замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола цалкам глабалізаванай эліты, уяўляе сабой прыклад маштабнай нацыянальнай здрады».

У беларускай несучаснасці ёсць свае бенефіцыяры. Мабыць, самы яркі момант «Вялікай размовы» — аповед АП пра прынцыпы размеркавання зямлі ў Беларусі.

Даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай, што без рашэння АП ні кавалка зямлі ці лясных угоддзяў у нас не атрымаць. Чаму? А таму, што на месцах «разбой пачынаецца». «Вось так і з усёй уласнасцю».

Але прабачце, а хто пачынае разбой на месцах: нацыяналісты, прадстаўнікі так званай «пятай калоны» або прызначаныя асабіста АП чальцы ўладнай «вертыкалі» ў асобе кіраўнікоў раённых і абласных адміністрацый?

Адказ відавочны, бо нічога больш несучаснага, чым уладная «вертыкаль» у пытаннях кіравання ў наш час няма

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ГЭТА ТАМ

# ФИНСКИЕ УРОКИ ДЛЯ БЕЛОРУССКИХ ВЛАСТЕЙ

**Дождемся ли мы когда-нибудь добровольных отставок правительства?**

Премьер-министр Финляндии Юха Сипиля подал прошение об отставке правительства. Причиной отставки послужила неудачная реформа здравоохранения и соцобеспечения. Кабмин Финляндии не смог согласовать позиции по ней, сообщает Финляндское информационное агентство.

Беларусь — не Финляндия. У нас, говорят, свое понятие спокойной и нормальной жизни. И все же сравнение просится. Интересно, сколько раз в нашей стране сменилось бы правительство, если бы власти страны начали придерживаться финских стандартов?

А поводов для прошения об отставке у нас хоть отбавляй. Сколько раз реформировалась система образования? И каков итог этих бесконечных реформ?

А белорусская система здравоохранения, сотрясаемая коррупционными скандалами?

А модернизация деревообработки и цементных заводов, закончившаяся пшиком и огромными убытками?

Примеры можно приводить долго, но факт остается фактом — пример Финляндии для нас — словно привет из параллельной реальности. Власти вроде бы начали открыто говорить о провалах в экономике. Но брать на себя ответственность за это они явно не торопятся.

**Кирилл Иванов**
**«Солидарность»**

УЛАДА

# ДЫКТАТУРА — БРЭНД БЕЛАРУСІ

**Прэс-сакратарка кіраўніка Беларусі ўзялася за апраўданьне беларускай дыктатуры.**

**Знойдзены брэнд Беларусі**

Шмат гадоў беларускае грамадзтва шукае нацыянальную ідэю. Дзеля гэтага працуюць цэлыя дзяржаўныя інстытуты, правялі шмат ток-шоў на БТ. Некалькі канфэрэнцыяў было прысьвечана пошуку брэнду Беларусі. За турыстычны брэнд Менску адной замежнай фірме нават заплацілі нямалыя грошы. Зь Вялікай Брытаніі выпісвалі цэлага лорда Бэла, каб прапіярыць лукашэнкаўскую Беларусь у Эўропе. І ўсё марна.

І вось эўрыка. Прэс-сакратарка Аляксандра Лукашэнкі Натальля Эйсмант адным скокам вырашыла праблему, над якой мучыліся сотні інтэлектуалаў. Яна проста пасароміла іх. І цяпер краіна можа спаць спакойна. Сп-ня Эйсмант вызваліла беларусаў ад невыноснага маральнага цяжару. Сякера аказалася пад лаўкай, а раяль стаяў у кустах. Бо, як вядома, усё геніяльнае — простае.

Вось што значыць быць у адным інтэлектуальным полі з чалавекам, пра «маштаб асобы, маштаб мысьлі» якога Натальля выказваецца з вялікім піетэтам і прыдыханьнем. Бо свой магічны арэол ён распаўсюджвае на сваё атачэньне.

«Мне здаецца, мы ўжо так часта вымаўляем гэтае слова, што дыктатура — гэта ўжо наш брэнд», — сказала сп-ня Эйсмант у эфіры АНТ. Вось яна — мудрасьць вякоў.

Інтэрвію прэс-сакратаркі ў перадачы «Маркаў. Нічога асабістага» цікавае менавіта яе шчырасьцю. «O sancta simplicitas» ( «О, сьвятая прастата!») — сказаў Ян Гус на вогнішчы, калі ўбачыў, што нейкая бабулька у прастадушнай стараннасьці кінула ў агонь гальлё. Сьвятая прастата Эйсмант таго самага кшталту.

**Магія дыктатуры**

Ёсьць такая зьява, як «магія дыктатара». У тэлесэрыяле «Гульні тронаў» запомнілася такая фраза: «Улада — гэта цень чалавека на сьцяне. Чалавек можа быць маленькі, а цень вельмі вялікі». Гэта якраз беларускі выпадак.

Працуючы пэўны час з Лукашэнкам, Эйсмант пачынае пераймаць стыль мысьленьня, паводзінаў, нават лексыкон шэфа. Вось прыклад. Сярод іншага Маркаў запытаўся ў Натальлі, паводле якога прынцыпу адбіраліся журналісты, экспэрты на «Вялікую размову з прэзыдэнтам», а таксама якім чынам там задаваліся пытаньні. «Калі б я адбірала пытаньні і тэмы, мне прэзыдэнт проста галаву адкруціў бы», — прастадушна адказала Эйсмант.

Шмат разоў мы чулі ад Лукашэнкі падобную тэрміналёгію: «па мордзе даць», «зьвернем галаву», «ногі паадкручваем», «рукі паадсякаем» і інш. І вось цяпер з вуснаў прыгожай, інтэлігентнай жанчыны гучыць жаргон, слэнг крымінальных разборак. Гэта адбываецца падсьвядома, на аўтамаце. З кім павядзесься...

**Прыклады маштабу асобы Лукашэнкі**

Яшчэ адзін цікавы сюжэт інтэрвію. Эйсмант, апавядаючы пра маштаб асобы Лукашэнкі, кажа: «Наблізіцца да гэтага ўзроўню генэраваньня ідэяў вельмі складана і нават, напэўна, немагчыма».

З гэтай нагоды мой калега Віталь Цыганкоў піша у фэйсбуку: «На гэтым момансе я нават унутрана напружыўся, чакаючы, пра што ж яна зараз раскажа. Можа, пра выпрацоўку стратэгіі разьвіцьця краіны, ці стварэньне нацыянальнай ідэі, ці там хаця б плян пашырэньня экспарту. І тут Эйсмант раскрывае „маштаб ідэяў" — аказваецца, размова ідзе пра навагодні баль і пра хакейную сэрыю. Маштаб зашкальвае, лішне казаць».

Сапраўды, прыклады, заклікаными паказаць маштаб асобы Лукашэнкі, проста забойныя. Сп-ня Эйсмант выдае за нестандартнасьць, крэатыўнасьць мысьленьня элемэнтарны панскі капрыз. Мауляў, хачу паглядзець, як Качанава будзе танчыць з Румасам (Лукашэнка сам пра гэта расказаў 1 сакавіка). І ўся дзяржаўная машына закруцілася, каб задаволіць нораў валадара.

Ці яшчэ адно дзіцячае жаданьне арганізаваць сэрыю хакейных гульняў паміж зборнай экстралігі і камандай «Дынама-Мінск». Тры гульні дзеля аднаго гледача. Тое, што студэнтаў і школьнікаў нагналі на арэну, — ня лічыцца. І хакеісты «Дынама-Мінск», траўмаваныя, у разабраным стане пасьля заканчэньня сэзону, нібы артысты прыгоннага тэатру, былі вымушаныя гуляць.

**Анамалія прымаецца за норму**

Але насамрэч праблема глыбейшая, чым абэрацыя зроку прэс-сакратаркі дыктатара (цяпер гэты тэрмін легалізаваны). Рэч у тым, што вырасла цэлае пакаленьне людзей, якія, акрамя дыктатуры Лукашэнкі, больш нічога ня бачылі, ня чулі, ня ведаюць. А Натальля Эйсмант — толькі прыгожае люстэрка, больш-менш адэкватнае адлюстраваньне гэтага фундамэнтальнага працэсу. На гэтым і палягае беларуская драма, што анамалія пачынае прымацца за норму.

Гэта ня мудрасьць вядомага філёзафа Валянціна Акудовіча, які разважае пра вялікі прагрэс з той нагоды, што беларусы ўпершыню за шмат вякоў займелі свайго ўласнага дыктатара. Гэта хутчэй сьвядомасьць простага савецкага чалавека, які сапраўды лічыў нязграбнага вусатага людажэра, што дрэнна гаварыў па-расейску, «правадыром усіх народаў», а данос на суседа разглядаў як грамадзянскі абавязак.

«Мы бачым, што адбываецца навокал, — хаос, часам беспарадак. Я, можа, нейкую парадаксальную рэч скажу, нечаканую, але часам мне здаецца, што яна сёньня дык заўтра, але пасьлязаўтра дакладна ў сьвеце можа паўстаць запыт на дыктатуру. Бо за дыктатурай у нашым сёньняшнім разуменьні ў першую чаргу мы бачым, на мой погляд, парадак, дысцыпліну і абсалютна нармальнае і спакойнае жыцьцё», — лічыць прэс-сакратар.

Паўгалодны савецкі калгаснік, атрымліваючы за працу пустыя «працадні», таксама лічыў, што жыве ў самай шчасьлівай краіне сьвету, што ўвесь сьвет яму зайздросьціць і марыць ісьці тым жа шляхам. Тут мы назіраем «стакгольмскі сындром» вялікай часткі беларускага грамадзтва. Гэта калі ахвяры гвалту пачынаюць адчуваць сымпатыю да гвалтаўнікоў. Шмат беларусаў сапраўды лічаць, што выбары, такія, напрыклад, як цяперашнія ва Украіне, — гэта «вакханалія», а тое, што адбываецца ў Беларусі пад выглядам выбараў, — гэта якраз норма, бо парадак і спакой. У гэтым сэнсе шчыраваньні Натальлі Эйсмант ёсьць цікавым дакумэнтам эпохі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 16.03.2019 у 18.40
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.